№ 85 (4132)

1 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ**

## Будзем разам і ў 2017-м!

Ідзе падпіска на “Народную Волю” на першае паўгоддзе 2017 года.

Калі з-за фінансавых праблем не маеце магчымасці аформіць падпіску на 6 месяцаў – зрабіце гэта на любы тэрмін.

Заўважым:

**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**

# У Расіі налічваецца прыкладна 120 тысяч доларавых мільянераў і 77 доларавых мільярдэраў, якія валодаюць 88 працэнтамі ўсіх нацыянальных багаццяў краіны. Скажыце, з кім Беларусь будуе «саюзную дзяржаву» – з абрамовічамі, усманавымі, алекперавымі, патанінымі, прохаравымі, ці з абкрадзенымі імі смаленскімі сялянамі і бяспраўнымі рабочымі ўральскіх заводаў?

*(Працяг тэмы на 5-й стар.)*

**НАПЯРЭДАДНІ: ФОТАХРОНІКА**





Акцыя памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій каля будынка КДБ. 29 кастрычніка.

Фота NN.BY




Фота SVABODA.ORG



Фота SVABODA.ORG

Дэмакратычныя актывісты ўшанавалі памяць нацыянальных герояў паўстання Кастуся Каліноўскага 1863 года на ягонай радзіме ў Свіслачы. 30 кастрычніка.



Фота SVABODA.ORG

Шэсце на Дзяды ў Курапаты, арганізаванае Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй – БНФ. 30 кастрычніка.

## Зянон ПАЗЬНЯК:

– Расстраляныя ляжаць тут, у Курапатах. Людзей расстрэльвалі яшчэ 23 чэрвеня 1941 года. Немцы ўжо бамбілі Мінск, а гэтыя (*маюцца на ўвазе супрацоўнікі НКВД*. – **Рэд.**) яшчэ забівалі тут людзей. Калі б не нямецкая акупацыя, маскоўскія бальшавікі расстрэльвалі б увесь беларускі народ гэтак жа, як хацелі вымарыць голадам усю Украіну і стварылі галадамор. Але як расійскі камунафашызм, так і нямецкі фашызм рабілі супольнае злачынства – знішчалі народ Беларусі.

(З аудыёзвароту З.Пазьняка да беларусаў.)

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

## Сваякі Рыгора Барадуліна рыхтуюць пазоў у праваахоўныя органы

*Удава Барадуліна Валянціна Міхайлаўна і ягоная ўнучка Дамініка хочуць прыцягнуць за абразлівыя выказванні ў адрас Рыгора Барадуліна Аляксандра Гарашчэню.*

Нагадаем, скандал вакол імя народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна разгарэўся пасля выказвання Аляксандра Гарашчэні, размешчанага ў інтэрнэце. У сваім допісе Гарашчэня назваў Барадуліна “*перакананай нацысцкай сволаччу, цяпер ужо дохлай*”.

Заснавальнік курсаў беларускай мовы “Мова нанова” **Глеб Лабадзенка** выступіў з прапановай звярнуцца ў праваахоўныя органы Беларусі, каб там далі прававую ацэнку словам Гарашчэні, які, паводле ўласнага прызнання, не чытаў твораў Рыгора Барадуліна.

Карэспандэнт “Народнай Волі” звязаўся з Глебам Лабадзенкам, каб даведацца, на якой стадыі знаходзіцца справа аб магчымым прыцягненні Гарашчэні да адказнасці.

– *На сённяшні дзень магу сказаць толькі тое, што юрысты рыхтуюць патрэбныя для гэтага дакументы*, – сказаў Лабадзенка. – *Справа гэта не такая хуткая, бо ўсё трэба зрабіць дакладна, але чарнавы варыянт звароту ўжо гатовы. Дарэчы, я не буду выступаць істцом у гэтай справе. Істцамі выступяць родныя Рыгора Барадуліна – ягоная жонка Валянціна Міхайлаўна і ўнучка Дамініка.*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

**ПРАБЛЕМА!**

## П’юць!

У Беларусі сёлета сталі прадаваць больш гарэлкі.

У студзені–верасні яе рэалізацыя павялічылася на 0,7%. За тры кварталы прадалі 6 мільёнаў 428,5 тысячы дал гарэлкі, яе доля ў агульным аб’ёме продажаў алкаголю склала 48,9% (летась за той самы перыяд – 45,7%).

Усяго праз рознічную гандлёвую сетку алкагольных напояў і піва прадалі на 2,3 мільярда новых рублёў. Гэта 10,1% рознічнага тавараабароту ў гандлі.

**ЗА РУЛЁМ**

## Прыехалі...

З сённяшняга дня яшчэ два ўчасткі рэспубліканскіх аўтадарог стануць платнымі.

Згодна з пастановай Саўміна №875 ад 26 кастрычніка, з 1 лістапада плата за праезд цяпер будзе спаганяцца на аўтадарозе Р23 Мінск–Мікашэвічы з 80-га па 99-ы кіламетр і аўтадарозе М5/Е271 Мінск–Гомель са 130-га па 212-ы кіламетр.

**ФАКТ**

## Панеслі валюту...

За дзевяць месяцаў 2016 года беларусы прадалі валюты амаль на 1,5 млрд долараў. Пра гэта ў інтэрв’ю тэлеканалу “Мир 24” паведаміў прэм’ер-міністр **Андрэй Кабякоў**. Паводле яго слоў, такім чынам “*насельніцтва дэманструе сваё адносіны да палітыкі курсаўтварэння*” і ўвогуле мае давер да нацыянальнай валюты. Аднак незалежныя эксперты лічаць, што пайсці ў абменнікі многіх беларусаў прымусіла патрэба: заробкаў на жыццё не хапае, таму прыходзіцца карыстацца назапашаным раней.

**БЛІЦ**

Цана на расійскі газ для Беларусі пакуль захоўваецца на ўзроўні 132 долары за тысячу кубаметраў, заявіў прэм’ер-міністр Андрэй Кабякоў у інтэрв’ю тэлеканалу “Мир 24”.

Як вядома, у 2016 годзе паміж Беларуссю і Расіяй разгарэўся нафтагазавы канфлікт. У сувязі з сусветным падзеннем цэн на энерганосьбіты Мінск лічыць справядлівай цану на газ у 73 долары за 1000 кубаметраў, а не 132,7 долара, як было запісана ў папярэднім кантракце. Паводле падлікаў Масквы, Беларусь завінавацiла Расіі каля 270–300 млн долараў.

## Чаму не ўдаецца вырашыць з Масквой пытанне па запазычанасці і цане на газ?

“Народная Воля” пацікавілася меркаваннем эканамістаў, палітыкаў і звычайных людзей.

**Леанід ЗАІКА, эканаміст, кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія»:**

– Я не сказаў бы, што гэта спрэчка паміж афіцыйнымі Масквой і Мінскам. Гэта спрэчка паміж гаспадарчымі суб’ектамі дзвюх краін. Праблема ў беларускіх прадпрыемствах, якія спажываюць расійскі газ і не могуць за яго плаціць. Беларусь паспрабавала ўзняць тарыфы на пракачку расійскага паліва праз нашу тэрыторыю, але, відавочна, мы ў гэтым расіянам прайгралі.

У Расіі былі варыянты прадаваць нам газ па 6000 расійскіх рублёў за 1000 кубаметраў, а гэта менш за 100 долараў. Аднак у перамовах, якія нядаўна адбыліся ў Мінску, беларускім бокам была ўзята няправільная нота, таму, як кажуць некаторыя палітыкі, нас “нахілілі” ў чарговы раз. Кошт газу застаецца ранейшым, і пытанне запазычанасці пакуль таксама адкрыта.

**Сяргей ЧАЛЫ, незалежны эканаміст:**

– Пытанне запазычанасці за газ напрамую закранае інтарэсы расійскага газавага манапаліста – кампаніі “Газпром”. Кошт газу для Беларусі застаецца ранейшым, аднак Расія гатова прадаставіць Беларусі, так бы мовіць, міжбюджэтную субсідыю, якая, калі казаць проста, дапаможа Беларусі за гэты газ разлічыцца.

Беларусь вінна каля 290 мільёнаў долараў за газ, а субсідыя, якую прадаставіць Расія, складзе каля 400 мільёнаў. Пытанне ў іншым: навошта было так складана гэтую камбінацыю закручваць? Грошы можна было напрамую перадаць “Газпрому”, але расіяне палічылі патрэбным накіраваць іх у Беларусь. Навошта? Магчыма, каб потым выставіць яшчэ адзін рахунак. Нейкі рэзон у расіян, безумоўна, быў.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:**

– Чаму не ўдаецца дамовіцца? Для мяне адказ відавочны: эканомікі абедзвюх краін не з’яўляюцца рынкавымі, а значыць, яны неканкурэнтныя. У Расіі інтарэсы ў газавай сферы адстойваюць выхадцы са спецслужбаў, якія ў ёй занялі высокія пасады. У нас жа за сваё б’ецца наменклатура. Канфлікты будуць узнікаць да той пары, пакуль беларускі бок будзе гатовы стаяць на каленях, выпрошваючы зніжку на кожную тысячу кубаметраў. Ад гэтага трэба адыходзіць – альбо плаціць па рынкавых коштах, як робяць маленькія краіны Балтыі, а цяпер і суседняя Украіна, альбо шукаць магчымасці для атрымання энергіі з іншых крыніц.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі:**

– Спрэчак кшталту цяперашняй газавай паміж Беларуссю і Расіяй будзе з’яўляцца ўсё больш і больш. Тут няма палітыкі, ёсць толькі рэальная эканоміка. Расія больш не ў стане даваць Аляксандру Лукашэнку “чаявыя”, якія часам дасягалі 15% валавога ўнутранага прадукту.

**Аляксандр ЛАБАСЮК, часова беспрацоўны:**

– Я не эканаміст, але, наколькі разумею, Беларусь ніколі не зможа дыктаваць свае ўмовы ў адносінах з Расіяй. Расія – вялікая ў тэрытарыяльным сэнсе, Беларусь – маленькая. Калі вялікі маленькага слухаў? Да таго ж мы цалкам залежым ад расійскага паліва. Пакуль сітуацыя не зменіцца, пакуль Беларусі не ўдасца адысці ад залежнасці ад Расіі ў гэтым пытанні, дыктаваць умовы будзем не мы.

**Апытанне праводзіў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ**



Елена МОЛОЧКО

## Фальшиво...

Что больше всего не любят избиратели всех стран в своих политиках?

Трескотни. Барабанных комментариев.

Чего не прощает публичным персонам публика?

Красования, пустого словоизвержения.

Опытная артистка, но молодой депутат Ирина Дорофеева посетила могилевскую тюрьму №4 и изолятор временного содержания. И в приподнятом настроении высказалась на камеру с фестивальным задором: «*Питание на высшем уровне, как в ресторане, признаюсь честно, я даже попробовала – очень вкусно*».

Что ни слово, то мимо.

Она «даже попробовала»... В смысле, снизошла от ананасов до рисовой каши? Нет? Тогда зачем фанфаронить? «Как в ресторане»... Ну что за некорректное сравнение! От поп-певицы любая игривость идет на ура, но из уст народного депутата реплика прозвучала фальшиво и неуместно. Тем более что ресторанное меню присутствует далеко не у каждого из нас и в свободной-то жизни. А здесь речь идет о неволе, о доме за колючей проволокой. Надо чувствовать место и время.

Конечно, в день визита членов общественного совета при МВД в могилевскую тюрьму обед там не мог быть из рук вон плохим, все-таки гости в дом. Котлета, компот... И, судя по фото, даже цветы депутату Дорофеевой преподнесли. Ах, какой прием! Но если нашелся серьезный повод дать оценку питанию заключенных (между прочим, серьезнейший вопрос), скажи проще: «Как в средней рабочей столовой». И у людей возникает доверие к твоей информации. А если не приходит на ум точное сравнение, промолчи. Как говорят дипломаты, язык дан человеку для того, чтобы скрывать свои мысли. Тем более если их нет... Держи марку, уважай статус народного избранника. Не на экскурсию ходили.

Впрочем, может быть, Ирина Дорофеева просто потеряла слух? Ну, бывают же такие катастрофы... Голос, ухо – все подвергается эрозии. Возможно, именно поэтому она решила оставить сцену и пойти в депутаты. А добрый белорусский избиратель поддержал: «А няхай сабе! Добрая жэншчына». Но для общественно-политической работы слух, хочу заметить, человеку тоже необходим. Слух на острые общественные проблемы, народные чаяния. Потому что фальшь артистки – скандальчик шоубиза, фальшь депутата – позор. Но Ирина и на следующий день рапортует журналистам о посещении тюрьмы, как будто побывала на кулинарном шоу: «Нам устроили дегустацию, лично мне понравился соленый огурец, очень вкусно!»

О, Господи!

Первый вопрос, который возникает лично у меня после этой незамысловатой сценки: а что будет делать такая веселая птичка в Национальном собрании страны? Зернышек ей что ли не хватало на эстраде? Или заседания у депутатов, как концерты? На сцене она, по правде сказать, порхала красиво: глазки, фигурка, наряды. Вот и в Овальном зале у нее, похоже, по-прежнему настроение-лайт.

Вспомнилось интервью певицы, где она рассказывает про свою собачку Дафи. «Чем вы ее кормите?» – спрашивает журналист. «Стараюсь давать в основном диетическую еду. Если мясо – то кролик или индейка, говядина. Стараюсь покупать только свежее. Меня уже продавцы знают и советуют, в какой день мне лучше прийти. В принципе, если я буду питаться, как Дафи, мне это пойдет на пользу, – смеется Ирина. – Буду всегда такой же шустрой и стройной. Чувствую, что скоро буду готовить на двоих».

Что сказать... Если все мы будем иметь возможность питаться, как собачка Дафи, то тоже станем счастливыми и здоровыми. И почему только не каждый может ежедневно позволить себе мясо кролика? Артистке Дорофеевой это знать, может, и не обязательно, ее работа – забавлять народ. Но интересно, знает ли депутат Дорофеева ответ на этот вопрос? Не хочется думать, что она совершенно отрешена от проблем трудового народа. Почему-то вспоминается прекрасная Мария-Антуанетта, «Мадам Дефицит», как за глаза называли королеву французские придворные. Она однажды сказала: «Людям не хватает хлеба? Пусть едят пирожные!» И стала знаменита на века. Но брать ее биографию как пример для подражания я никому не советовала бы.

